АБ'ЕКТЫЎ

КАРЭСПАНДЭНТ ВЫЕХАЎ НА МЕСЦА

# ДАРОСЛЫЯ ГУЛЬНІ НА ВАЧАХ У ДЗЯЦЕЙ

Напэўна, усе пакаленні жыхароў пасёлка Асвея, што ў Верхнядзвінскім раёне на Віцебшчыне, у дзяцінстве вераць у прыгожую будучыню малой радзімы. Ва ўсякім разе, большасць школьных сачыненняў на тэму «Аб чым я мару» расказваюць пра вялікі хрустальны мост, які звязвае мястэчка і востраў, што знаходзіцца ў цэнтры Асвейскага возера. Крохкія мары пра шматлікіх замежных турыстаў і натоўпы рэпарцёраў разбіваюцца, калі чалавек пачынае сталець.

Аднак нядаўна частка мары ўчарашняй і сённяшняй дзятвы збылася: пра Асвею загаварылі. Прычынай таго стала надзвычайная падзея.

Пратэст выхавацеля мясцовай школы-інтэрната ў форме галадоўкі падтрымалі дзеці — яны таксама адмовіліся есці. Вядома, дзіцячая забастоўка хутка скончылася — няма ў маладога чалавека ні фізічных сіл для падобнага акта самавыяўлення, ні псіхалагічных. Але ж факт застаецца фактам, і наўрад ці ён быў выкліканы нейкай драбязой.

Газетныя публікацыі нярэдка грашаць недакладнасцю. Асабліва калі інфармацыя перадаецца з нечых слоў.

З паведамленняў шэрагу беларускіх газет у чытачоў магло скласціся толькі адно ўражанне: выхаванцы Асвейскай школы-інтэрната ходзяць паўраздзетыя і галодныя. Накіроўваючыся ў партызанскі край, так думала і я.

■

Асвейская школа-інтэрнат за гады існавання неаднойчы мяняла свой статус. У пачатку 80-х яна стала дапаможнай для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Быў час — збіраліся школу закрыць. Але пасля перабудовы пра Асвейскую школу-інтэрнат успомнілі. У ёй былі свабодныя ложкі. У сярэдзіне дзевяностых размову вялі ўжо не пра месцы, а пра ложкі — дзіцячыя ўстановы Віцебскай вобласці былі перапоўненыя. Дзяцей-сірот, дзяцей, чые бацькі пазбаўленыя правоў на іх, сялілі, дзе знаходзілі для іх месцы. Трэба было даць дзецям дах. Хаця б часова. Так у Асвеі побач з алігафрэнамі з 1995 года сталі жыць сацыяльныя сіроты.

Сацыяльная сірата — гэта калі тэарэтычна бацькі ёсць, але фактычна іх няма. У Асвейскай школе-інтэрнаце больш за шэсцьдзесят дзяцей мараць жыць у бацькоўскай хаце, бо, як бы дрэнна там ні было, там — мама і тата. Якія б дрэнныя яны ні былі. Здавалася б, парадокс: падлеткі бягуць не з раскошы, але ад лепшага жыцця да таго, ранейшага. Дзе нярэдка не здагадваюцца пра існаванне пасцельнай бялізны, і што з талеркі трэба есці лыжкай, а не піць. Дзе з яды — бульба ды хлеб, затое неабмежавана, а не як у інтэрнаце — па норме, па некалькі соцень грамаў. Некаторыя ад сырнікаў адмаўляюцца, гарнір адсоўваюць — за ежу не лічаць. Не прывыклі да такіх страў. Так і заяўляюць: дамоў хачу — там бульбы многа. Гэтае жаданне падмацоўваецца яшчэ і прымусамі: трэба хадзіць у школу і працаваць. А дома — свабода. Пятнаццацігадовы юнак забыўся, што такое вучыцца, яшчэ пасля пятага класа. З маленькімі, вядома, лягчэй, з іх яшчэ можна ляпіць. А трынаццаці—шаснаццацігадовыя падлеткі ўздзеянню практычна не паддаюцца. І пратэстуюць супраць «насілля» — крышаць і без таго небагатую мэблю, крыўдзяць малодшых, зневажаюць настаўнікаў. Не хаваюць, што кураць, нюхаюць, п'юць. Адкуль сродкі? «Сіроцкая» стыпендыя (20 працэнтаў «мінімалкі»), якую атрымліваюць штомесяц. Гэты кантынгент — «цяжкія» дзеці, як кажуць настаўнікі. З-за іх і разгарэўся скандал.

■

Цярпенне выкладчыкаў, дзе навучаліся сацыяльныя сіроты, лопнула. Неаднойчы звярталіся з патрабаваннем пазбавіць сваіх дзяцей такога суседства бацькі мясцовых вучняў. У красавіку гэтага года на сходзе настаўніцкага калектыву школы-інтэрната вырашылі поспехі выхавацеляў у працы з «цяжкімі» стымуляваць — даваць па выніках месяца прэмію. А ў маі Пётр Ермачкоў, выхавацель старэйшай і самай складанай групы, аб'явіў галадоўку.

*Расказвае Ірына Пятроўна Гасюль, намеснік дырэктара Асвейскай школы-інтэрната па выхаваўчай рабоце.*

— Калі ў маі мы ацэньвалі работу выхавацеляў на сумесным пасяджэнні, была выказана думка, што тыя не ўсё зрабілі, што маглі. А таму прэтэндаваць на поўную суму прэміі не могуць. Гэтым рашэннем асабліва быў незадаволены Пётр Андрэевіч.

У дадзеным выпадку кожны бок мае сваю праўду. Ермачкоў, які лічыць, што выхавацель не павінен несці адказнасць за падапечных падчас іх знаходжання на ўроках, і адміністрацыя школы-інтэрната, на думку якой, за дадатковыя сродкі ўсё ж можна было б кантраляваць прысутнасць выхаванцаў за партай.

Пётр Андрэевіч запатрабаваў выдаць загад, згодна з якім адказнасць за дзяцей падчас іх знаходжання ў сценах школы нясуць настаўнікі. Кіраўніцтва адмовілася. Выхавацель запратэставаў.

Як кажа сам Пётр Ермачкоў, гэта была толькі нагода. Праблемы накапіліся даўно, і вырашаць іх, ходзячы па інстанцыях, — гэта было б тое ж самае, што глядзець, як гарыць дом.

— У школе-інтэрнаце жывуць больш за 60 сацыяльных сірот. Гэта практычна дзіцячы дом. А значыць, на іх утрыманне з бюджэту павінны выдаткоўвацца іншыя сродкі. І нормы па адзенню, ежы павінны быць не такія. Але яны не захоўваюцца. Гэтыя патрабаванні — аб змяненні статусу школы і забеспячэнні дзяцей па нормах, я і выставіў, — расказвае Пётр Андрэевіч.

Ермачкоў галадаў восем дзён, не пакідаючы свайго працоўнага месца. За гэты час прыязджалі неаднойчы чыноўнікі з раёна і вобласці. Панаехалі і незлічоныя праверкі. Цяпер ужо Асвея гула па іншай прычыне.

*Расказвае Валерый Мікалаевіч Вараб'ёў, дырэктар школы-інтэрната.*

— Сапраўды, цяжка сёння жывём. І мэблі ў нас не хапае, і ложкі з металічнай сеткай, і пасцельнай бялізны прыпадае на аднаго выхаванца па два камплекты, а не па тры, як прадугледжана нормамі. Мы не можам штогод купляць дзецям новую вопратку, а «новенькіх» забяспечыць поўнасцю камплектам мяккага інвентару — шторамі, дыванамі, коўдрамі. Па нормах на аднаго выхаванца сёлета патрэбна выдаткаваць каля 12 мільёнаў рублёў, на «новенькага» — каля 20. А бюджэтам выдзелена на гэтыя патрэбы толькі 286 мільёнаў. Самае неабходнае ў дзяцей ёсць. Аб'яднанне «Палімір» нядаўна кожнаму дзіцяці па трыкатажнаму вырабу падаравала. Ды і мы купляем сёе-тое. Недахопы ж з забеспячэннем харчавання маюць мясцовы характар — не завозяць у Асвею ўсяго асартыменту садавіны і агародніны. «Дабіраем» сокамі, садавіной, што вырасцілі самі. Аднак па каларыйнасці нормы вытрымліваем. Тут праблема іншага кшталту: грошы ёсць — прадуктаў няма.

Сапраўды, як ні парадаксальна, рыба на абед у выхаванцаў школы-інтэрната бывае нячаста, хоць у Асвейскім возеры водзяцца і шчупакі, і ліні.

*Гэтыя складанасці патлумачыў загадчык Верхнядзвінскага раённага аддзела адукацыі Пётр Пятровіч Мацкевіч.*

— Усе адукацыйныя ўстановы маюць права набываць прадукты толькі праз дзяржгандаль. А калі сёння мясцовыя магазіны не могуць прапанаваць ні мяса, ні цукру? Мы ставілі гэтае пытанне на сесіі райвыканкама. Раней існавалі дзяржфонды для забеспячэння дзіцячых установаў. Цяпер такога няма.

У Верхнядзвінскім раёне дзве школы-інтэрнаты. Фінансуюцца яны з раённага бюджэту, які падсілкоўваецца сумамі з вобласці. Сёлета на дзве гэтыя ўстановы выдаткавана 1/5 раённага бюджэту. Зразумела, гэтага не хапае. Але сёлета мы не далі ні капейкі на папаўненне мяккага інвентару ніводнаму дзіцячаму садзіку, ніводнай школе ў раёне. Ды што інвентар, калі некаторыя школы знаходзяцца ў аварыйным стане, калі не ўсюды ёсць камп'ютэрныя кабінеты, калі мы не маем магчымасці перабсталяваць класы па новых нормах асвятлення, бо няма за што. А тая сума, 70 мільёнаў, якую пералічыў бюджэт на рахунак «пярвічкі» БПСМ, справу не паправіла б. Канешне, ёсць закавыка — гэта грамадская арганізацыя. Але калі хочам, каб жыхары краіны паважалі сваю радзіму, напэўна трэба весці работу сярод моладзі?

Сапраўды, работу сярод моладзі весці трэба. Галоўнае не спазніцца, своечасова перахапіць яе на шляху, што вядзе ў нікуды. Па словах спецыяліста ўпраўлення адукацыі Віцебскага аблвыканкама Людмілы Сяргееўны Марозавай, штогод на Віцебшчыне становяцца сацыяльнымі сіротамі каля 600 дзяцей. Магчыма, нешта трэба мяняць у метадах барацьба за маленькіх грамадзян. Настаўнікі Асвейскай школы-інтэрната выказалі меркаванне, што пазбаўленне правоў гора-бацькоў асуджае на пакуты ў першую чаргу дзяцей. І яны за гэта помсцяць. Па-свойму.

■

Сёння ў Асвеі ціха. Афіцыйным спонсарам стане аб'яднанне «Палімір». У школе спадзяюцца, што будзе зроблены рамонт — тры гады таму назад шэфы ўжо дапамаглі такім чынам. У школу-інтэрнат днямі прыйшла гуманітарная дапамога ад шэрагу грамадскіх арганізацый. Свой уклад унясе і Міністэрства адукацыі, куды, між іншым, па дапамогу не звярталася ні адміністрацыя школы-інтэрната, ні выхавацель Пётр Ермачкоў. Хаця, як дзейнічаць, Пётр Андрэевіч не ведаць не мог. У свой час ён некалькі гадоў быў намеснікам дырэктара Асвейскай школы-інтэрната па выхаваўчай рабоце. Пасля лячэння выкладчык пайшоў у водпуск. Некаторыя дзеці накіраваліся дамоў, многія — у аздараўленчыя лагеры. «Цяжкіх» дзяцей паабяцалі забраць. Увосень іх накіруюць у іншы «дом» — у Друю ці ў Дуброўна. Тады ў Асвеі застануцца толькі дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Усё стане на свае месцы. Хаця персанал дапаможнай школы-інтэрната да гэтага абяцання ставіцца скептычна. Усе дзіцячыя ўстановы вобласці ўкамплектаваныя. Значыць, «падсяляць» будуць? Часова?

**Жанна КАТЛЯРОВА,**
*Віцебская вобласць.*

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ АХОВЕ

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 21 мая 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 29 мая 1998 года*

Гэты Закон вызначае прызначэнне дзяржаўнай аховы, устанаўлівае ахоўваемых асоб, паўнамоцтвы органаў дзяржаўнай аховы, а таксама кантроль і нагляд за іх дзейнасцю.

**ГЛАВА 1. Агульныя палажэнні**

**Артыкул 1. Асноўныя паняцці**

У гэтым Законе прымяняюцца наступныя асноўныя паняцці і іх азначэнні:

дзяржаўная ахова — сукупнасць прававых, арганізацыйных, ахоўных, рэжымных, аператыўна-вышуковых, тэхнічных і іншых мер у сферы забеспячэння бяспекі ахоўваемых асоб і абароны ахоўваемых аб'ектаў, якія ажыццяўляюцца спецыяльна створанымі органамі дзяржаўнай аховы і іншымі ўпаўнаважанымі на тое ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі органамі;

ахоўваемыя асобы — асобы, якія падлягаюць дзяржаўнай ахове ў адпаведнасці з гэтым Законам;

ахоўваемыя аб'екты — памяшканні, будынкі, пабудовы, збудаванні і тэрыторыі, што вызначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, дыпламатычныя прадстаўніцтвы замежных дзяржаў у Рэспубліцы Беларусь, якія падлягаюць абароне ў мэтах забеспячэння бяспекі ахоўваемых асоб;

ахоўныя мерапрыемствы — сукупнасць дзеянняў па забеспячэнню бяспекі ахоўваемых асоб і абароны ахоўваемых аб'ектаў, якія ажыццяўляюцца органамі дзяржаўнай аховы і іншымі ўпаўнаважанымі на тое ў адпаведнасці з гэтым Законам дзяржаўнымі органамі;

прапускны рэжым — парадак пропуску асоб, праезду транспартных сродкаў, праносу і правозу рэчаў на ахоўваемыя аб'екты, які ўстанаўліваецца адпаведнымі службовымі асобамі дзяржаўных органаў сумесна з органамі дзяржаўнай аховы ў мэтах забеспячэння бяспекі ахоўваемых асоб і абароны ахоўваемых аб'ектаў;

супрацоўнікі органаў дзяржаўнай аховы — ваеннаслужачыя і работнікі спецыяльнай міліцыі, якія праходзяць службу ў органах дзяржаўнай аховы;

грамадзянскі персанал органаў дзяржаўнай аховы — рабочыя і служачыя органаў дзяржаўнай аховы.

**Артыкул 2. Прававая аснова дзяржаўнай аховы**

Дзяржаўная ахова ажыццяўляецца на аснове Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, гэтага Закона, іншых законаў і іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь, а таксама міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 3. Асноўныя прынцыпы ажыццяўлення дзяржаўнай аховы**

Дзяржаўная ахова ажыццяўляецца на аснове наступных прынцыпаў:

законнасці;

павагі і захавання правоў і свабод чалавека і грамадзяніна;

каардынацыі і ўзаемадзеяння;

бесперапыннасці;

спалучэння галосных і тайных метадаў дзейнасці;

адзінаначалля;

падкантрольнасці і паднагляднасці.

**Артыкул 4. Меры па ажыццяўленню дзяржаўнай аховы**

Дзяржаўная ахова ажыццяўляецца праз рэалізацыю наступных мер:

1) прадастаўленне ахоўваемым асобам персанальнай аховы і транспартнага абслугоўвання, а таксама інфармацыі аб пагрозе іх бяспецы;

2) арганізацыю абароны ахоўваемых аб'ектаў;

3) ажыццяўленне аператыўна-вышуковай дзейнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб аператыўна-вышуковай дзейнасці;

4) правядзенне ахоўных мерапрыемстваў і падтрыманне грамадскага парадку ў месцах пастаяннага і часовага знаходжання ахоўваемых асоб і на ахоўваемых аб'ектах;

5) падтрыманне парадку, устаноўленага ўпаўнаважанымі на тое службовымі асобамі, і прапускнога рэжыму на ахоўваемых аб'ектах.

**Артыкул 5. Органы і сілы, якія ажыццяўляюць і забяспечваюць дзяржаўную ахову**

Дзяржаўную ахову ажыццяўляюць органы дзяржаўнай аховы.

У забеспячэнні бяспекі ахоўваемых асоб і абароны ахоўваемых аб'ектаў у межах сваіх паўнамоцтваў удзельнічаюць органы дзяржаўнай бяспекі, органы ўнутраных спраў і ўнутраныя войскі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь, пагранічныя войскі Рэспублікі Беларусь і іншыя дзяржаўныя органы Рэспублікі Беларусь.

**ГЛАВА 2. Прадастаўленне дзяржаўнай аховы**

**Артыкул 6. Ахоўваемыя асобы**

Да ахоўваемых асоб адносяцца:

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь;

службовыя асобы дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь, вызначаныя гэтым Законам;

кіраўнікі замежных дзяржаў і ўрадаў у час іх знаходжання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

іншыя асобы, якія вызначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 7. Прадастаўленне дзяржаўнай аховы Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь**

Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь з дня афіцыйнага аб'яўлення аб яго выбранні прадастаўляецца дзяржаўная ахова ў месцах яго пастаяннага і часовага знаходжання ў поўным аб'ёме мер, прадугледжаных артыкулам 4 гэтага Закона. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь на працягу тэрміну сваіх паўнамоцтваў не мае права адмовіцца ад дзяржаўнай аховы. Па сканчэнні тэрміну паўнамоцтваў Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь дзяржаўная ахова прадастаўляецца пажыццёва з яго згоды.

На працягу тэрміну паўнамоцтваў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзяржаўная ахова прадастаўляецца членам яго сям'і, якія пражываюць сумесна з ім або суправаджаюць яго.

**Артыкул 8. Прадастаўленне дзяржаўнай аховы службовым асобам дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь**

Дзяржаўная ахова прадастаўляецца наступным службовым асобам дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь:

Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь;

Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь;

Старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Указаным асобам дзяржаўная ахова прадастаўляецца на працягу тэрміну іх паўнамоцтваў.

Пры неабходнасці па рашэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзяржаўная ахова можа быць прадастаўлена і іншым службовым асобам дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 9. Прыняцце мер па забеспячэнню дзяржаўнай аховы**

Меры па забеспячэнню дзяржаўнай аховы асоб, указаных у артыкуле 8 гэтага Закона, прымаюцца зыходзячы з характару і рэальнасці пагрозы іх бяспецы на падставе рашэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 10. Забеспячэнне бяспекі кіраўнікоў замежных дзяржаў і ўрадаў і іншых асоб замежных дзяржаў**

Бяспека кіраўнікоў замежных дзяржаў і ўрадаў, членаў іх сем'яў у перыяд знаходжання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь забяспечваецца ў адпаведнасці з міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь, а таксама пагадненнямі паміж органамі дзяржаўнай аховы і ўпаўнаважанымі органамі замежных дзяржаў.

Пры неабходнасці бяспека іншых асоб замежных дзяржаў у перыяд знаходжання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь забяспечваецца на падставе рашэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**ГЛАВА 3. Органы дзяржаўнай аховы**

**Артыкул 11. Органы дзяржаўнай аховы**

Органы дзяржаўнай аховы складаюцца са Службы бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Служба бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з'яўляецца воінскім фарміраваннем.

Галоўнае ўпраўленне дзяржаўнай аховы пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь з'яўляецца органам спецыяльнай міліцыі.

Палажэнні аб органах дзяржаўнай аховы і іх структура зацвярджаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 12. Асноўныя задачы органаў дзяржаўнай аховы**

Асноўнымі задачамі органаў дзяржаўнай аховы з'яўляюцца:

1) прагназіраванне і выяўленне пагрозы жыццёва важным інтарэсам ахоўваемых асоб і бяспецы ахоўваемых аб'ектаў, ажыццяўленне комплексу мер па прадухіленню гэтай пагрозы;

2) забяспячэнне бяспекі ахоўваемых асоб у месцах пастаяннага і часовага знаходжання;

3) удзел у межах сваіх паўнамоцтваў у барацьбе з тэрарызмам;

4) забеспячэнне абароны ахоўваемых аб'ектаў;

5) выяўленне, папярэджанне і спыненне злачынстваў і іншых правапарушэнняў на ахоўваемых аб'ектах.

**Артыкул 13. Абавязкі органаў дзяржаўнай аховы**

Органы дзяржаўнай аховы абавязаны:

1) выяўляць, прадухіляць і спыняць проціпраўныя замахі на ахоўваемых асоб і ахоўваемыя аб'екты;

2) арганізоўваць і праводзіць ахоўныя, рэжымныя, тэхнічныя і іншыя мерапрыемствы па забеспячэнню бяспекі ахоўваемых асоб і абароны ахоўваемых аб'ектаў;

3) падтрымліваць грамадскі парадак, неабходны для забеспячэння бяспекі ахоўваемых асоб у месцах іх пастаяннага і часовага знаходжання; устараняць акалічнасці, што перашкаджаюць ажыццяўленню дзяржаўнай аховы;

4) забяспечваць у неабходных выпадках суправаджэнне або эскартаванне аўтатранспартных сродкаў, у якіх едуць ахоўваемыя асобы;

5) арганізоўваць і праводзіць на ахоўваемых аб'ектах, а таксама ў месцах пастаяннага і часовага знаходжання ахоўваемых асоб аператыўна-тэхнічны, санітарна-гігіенічны, экалагічны, радыяцыйны, проціэпідэмічны і іншыя віды кантролю;

6) ажыццяўляць інфармацыйна-аналітычнае і прававое забеспячэнне сваёй дзейнасці;

7) забяспечваць уласную бяспеку;

8) ажыццяўляць ва ўзаемадзеянні з іншымі ўпаўнаважанымі органамі меры па процідзеянню ўцечцы інфармацыі;

9) ажыццяўляць падрыхтоўку, перападрыхтоўку і павышэнне кваліфікацыі кадраў;

10) ажыццяўляць службова-гаспадарчую дзейнасць;

11) ажыццяўляць абумоўленыя зместам выконваемых задач кантакты са спецыяльнымі службамі, праваахоўнымі органамі і іншымі арганізацыямі замежных дзяржаў.

**Артыкул 14. Правы органаў дзяржаўнай аховы**

Органы дзяржаўнай аховы ў мэтах ажыццяўлення сваіх паўнамоцтваў маюць права:

1) прыцягваць у парадку, устаноўленым заканадаўствам, сілы і сродкі органаў дзяржаўнай бяспекі, органаў унутраных спраў і ўнутраных войск Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, пагранічных войск Рэспублікі Беларусь і іншых дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь для ўдзелу ў падрыхтоўцы і правядзенні ахоўных мерапрыемстваў;

2) ажыццяўляць аператыўна-вышуковую дзейнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб аператыўна-вышуковай дзейнасці;

3) правяраць у грамадзян і службовых асоб дакументы, якія засведчваюць іх асобу; праводзіць у выпадках неабходнасці пры праходзе (праездзе) на ахоўваемыя аб'екты і пры выхадзе (выездзе) з ахоўваемых аб'ектаў асабісты надгляд грамадзян, надгляд рэчаў, якія знаходзяцца пры іх, надгляд транспартных сродкаў і правозімых на іх рэчаў, у тым ліку з прымяненнем тэхнічных сродкаў;

4) праводзіць дакументаванне, фатаграфаванне, гуказапіс, кіна- і відэаздымку фактаў і падзей, якія непасрэдна датычацца задач, ускладзеных на органы дзяржаўнай аховы;

5) затрымліваць і дастаўляць у органы ўнутраных спраў або органы дзяржаўнай бяспекі асоб, якія ўчынілі або ўчыняюць правапарушэнні ў месцах пастаяннага або часовага знаходжання ахоўваемых асоб ці дзеянні, накіраваныя на перашкоджанне законным патрабаванням супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай аховы або звязаныя з пранікненнем або са спробай пранікнення на ахоўваемыя аб'екты;

6) уносіць у дзяржаўныя органы Рэспублікі Беларусь, прадпрыемствы, ва ўстановы і ў арганізацыі незалежна ад форм уласнасці, а таксама ў грамадскія аб'яднанні абавязковыя для выканання прадстаўленні аб неабходнасці ўстаранення прычын і ўмоў, якія параджаюць пагрозу бяспецы ахоўваемых асоб і ахоўваемых аб'ектаў;

7) карыстацца ў выпадку неабходнасці ў службовых мэтах сродкамі сувязі, якія належаць прадпрыемствам, установам і арганізацыям незалежна ад форм уласнасці, а таксама грамадзянам. Па патрабаванню ўладальнікаў сродкаў сувязі органы дзяржаўнай аховы ва ўстаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь парадку пакрываюць панесеныя імі пры гэтым расходы ці прычыненыя ўрон;

8) выкарыстоўваць бесперашкодна транспартныя сродкі, якія належаць прадпрыемствам, установам і арганізацыям незалежна ад форм уласнасці, за выключэннем транспартных сродкаў дыпламатычных, консульскіх і іншых прадстаўніцтваў замежных дзяржаў і міжнародных арганізацый, а ў неадкладных выпадках — і грамадзянам, для прадухілення злачынстваў, для праследавання і затрымання асобы, якая ўчыніла злачынства або падазраецца ў яго ўчыненні, для дастаўлення ў лячэбную ўстанову асобы, якая мае патрэбу ў тэрміновай медыцынскай дапамозе, а таксама для праезду да месца здарэння ў выпадках, якія не цярпяць адкладу. Па патрабаванню ўладальнікаў транспартных сродкаў органы дзяржаўнай аховы ва ўстаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь парадку пакрываюць панесеныя імі пры гэтым расходы ці прычыненыя ўрон;

9) бесперашкодна ўваходзіць у жылыя і іншыя памяшканні грамадзян, на прыналежныя ім зямельныя ўчасткі, у памяшканні і на тэрыторыю прадпрыемстваў, установаў і арганізацый незалежна ад форм уласнасці пры спыненні злачынстваў, што ствараюць пагрозу бяспецы ахоўваемых асоб і ахоўваемых аб'ектаў, а таксама пры праследаванні асоб, якія падазраюцца ва ўчыненні такіх злачынстваў, калі прамаруджванне можа стварыць рэальную пагрозу бяспецы ахоўваемых асоб і ахоўваемых аб'ектаў;

10) прымаць пры неабходнасці меры па часоваму абмежаванню або забароне руху транспартных сродкаў і пешаходаў на вуліцах і дарогах, па недапушчэнню транспартных сродкаў і грамадзян на асобныя ўчасткі мясцовасці і аб'екты, а таксама па адбуксіроўцы транспартных сродкаў;

11) запытваць і бязвыплатна атрымліваць неабходную інфармацыю ад дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь, прадпрыемстваў, установаў і арганізацый незалежна ад форм уласнасці, а таксама ад грамадскіх аб'яднанняў;

12) вызначаць парадак захоўвання і нашэння зброі і спецыяльных сродкаў супрацоўнікамі органаў дзяржаўнай аховы;

13) выкарыстоўваць у выпадку службовай неабходнасці дакументы, якія зашыфроўваюць асобу супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай аховы, ведамасную прыналежнасць іх падраздзяленняў, памяшканняў і транспартных сродкаў;

14) прымаць у межах сваіх паўнамоцтваў прадугледжаныя законамі, а таксама іншымі нарматыўнымі актамі Рэспублікі Беларусь меры дзяржаўнай абароны жыцця, здароўя і маёмасці супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай аховы, іх блізкіх сваякоў, а ў выключных выпадках — таксама іншых асоб, на жыццё, здароўе і маёмасць якіх робіцца замах з мэтай перашкодзіць законнай дзейнасці супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай аховы ці прымусіць іх да змянення яе характару, а таксама з помсты за ўказаную дзейнасць;

15) карыстацца бясплатна па спецыяльнаму знаку ўсімі відамі агульнага транспарту (акрамя таксі) гарадскіх, прыгарадных і мясцовых зносін у межах рэспублікі, а таксама спадарожным транспартам;

16) абменьвацца са спецыяльнымі службамі, з праваахоўнымі органамі і арганізацыямі замежных дзяржаў у межах сваіх паўнамоцтваў аператыўнай інфармацыяй, спецыяльнымі тэхнічнымі і іншымі сродкамі, а таксама дамаўляцца з імі аб умовах і парадку забеспячэння асабістай бяспекі ахоўваемых асоб пры іх выездзе за межы тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 15. Узаемадзеянне органаў дзяржаўнай аховы з дзяржаўнымі органамі, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь, са спецыяльнымі службамі, з праваахоўнымі і іншымі органамі замежных дзяржаў**

Органы дзяржаўнай аховы забяспечваюць бяспеку ахоўваемых асоб і абарону ахоўваемых аб'ектаў ва ўзаемадзеянні паміж сабой, з пералічанымі ў артыкуле 5 гэтага Закона і іншымі дзяржаўнымі органамі, а таксама прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь незалежна ад форм уласнасці.

Парадак узаемадзеяння органаў дзяржаўнай аховы з органамі дзяржаўнай бяспекі, органамі ўнутраных спраў і ўнутранымі войскамі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь і пагранічнымі войскамі Рэспублікі Беларусь устанаўліваецца заканадаўчымі і іншымі нарматыўнымі актамі Рэспублікі Беларусь, а таксама пагадненнямі паміж імі.

Органы дзяржаўнай аховы арганізуюць у межах сваіх паўнамоцтваў узаемадзеянне дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь, якія прыцягваюцца да выканання задач дзяржаўнай аховы, і ажыццяўляюць каардынацыю іх дзейнасці ў сферы дзяржаўнай аховы.

Дзяржаўныя органы, прадпрыемствы, установы і арганізацыі Рэспублікі Беларусь незалежна ад форм уласнасці, а таксама грамадскія аб'яднанні абавязаны аказваць садзейнічанне органам дзяржаўнай аховы ў вырашэнні задач па забеспячэнню бяспекі ахоўваемых асоб і абароны ахоўваемых аб'ектаў.

Узаемадзеянне органаў дзяржаўнай аховы са спецыяльнымі службамі, з праваахоўнымі і іншымі органамі замежных дзяржаў устанаўліваецца на аснове міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь, гэтага Закона і ўзаемнай дамоўленасці.

**ГЛАВА 4. Супрацоўнікі і грамадзянскі персанал органаў дзяржаўнай аховы**

**Артыкул 16. Камплектаванне органаў дзяржаўнай аховы**

Органы дзяржаўнай аховы камплектуюцца ваеннаслужачымі, работнікамі спецыяльнай міліцыі і грамадзянскім персаналам з ліку грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Колькасць ваеннаслужачых, работнікаў спецыяльнай міліцыі і грамадзянскага персаналу органаў дзяржаўнай аховы ўстанаўліваецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 17. Супрацоўнікі органаў дзяржаўнай аховы**

Супрацоўнікамі органаў дзяржаўнай аховы могуць быць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, здольныя па сваіх асабістых і дзелавых якасцях, узросту, адукацыі, узроўню фізічнай падрыхтоўкі і стану здароўя выконваць ускладзеныя на іх абавязкі. Медыцынскі агляд грамадзян, якія прымаюцца на службу ў органы дзяржаўнай аховы, ажыццяўляецца ваенна-ўрачэбнымі камісіямі органаў унутраных спраў і органаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.

Супрацоўнікі органаў дзяржаўнай аховы праходзяць службу ў органах дзяржаўнай аховы ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб ваеннай службе і міліцыі з улікам устаноўленых гэтым Законам асаблівасцей, абумоўленых спецыфікай задач, якія стаяць перад органамі дзяржаўнай аховы, і абавязкаў, ускладзеных на іх.

**Артыкул 18. Гарантыі прававой і сацыяльнай абароны супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай аховы**

Супрацоўнікі органаў дзяржаўнай аховы пры выкананні службовых абавязкаў з'яўляюцца прадстаўнікамі ўлады і знаходзяцца пад абаронай дзяржавы. Ніхто не мае права ўмешвацца ў службовую дзейнасць супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай аховы, акрамя дзяржаўных органаў і службовых асоб, непасрэдна ўпаўнаважаных на тое заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Невыкананне або перашкоджанне выкананню законных патрабаванняў супрацоўніка органаў дзяржаўнай аховы, знявага яго гонару і годнасці, пагроза, насілле або замах на яго жыццё, здароўе і маёмасць, а таксама іншыя дзеянні, якія перашкаджаюць выкананню ўскладзеных на супрацоўніка органаў дзяржаўнай аховы абавязкаў, цягнуць за сабой адказнасць, прадугледжаную заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Пры выкананні супрацоўнікам органаў дзяржаўнай аховы службовых абавязкаў не допускаюцца яго прывод, затрыманне, асабісты надгляд і надгляд яго рэчаў, а таксама надгляд транспарту, які выкарыстоўваецца ім, без прысутнасці афіцыйнага прадстаўніка органа дзяржаўнай аховы, акрамя выпадкаў затрымання яго пры ўчыненні злачынства.

На супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай аховы распаўсюджваюцца іншыя гарантыі прававой і сацыяльнай абароны, прадугледжаныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь для ваеннаслужачых і работнікаў міліцыі.

**Артыкул 19. Адказнасць супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай аховы**

Невыкананне або неналежнае выкананне супрацоўнікамі органаў дзяржаўнай аховы службовых абавязкаў цягне за сабой адказнасць, прадугледжаную заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 20. Абскарджанне неправамерных дзеянняў супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай аховы**

Грамадзяне і службовыя асобы маюць права абскардзіць дзеянні супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай аховы службовым асобам указаных органаў, пракурору або ў суд, калі лічаць, што гэтыя дзеянні выклікалі ўшчамленне іх правоў, нанеслі ім маральную шкоду або прычынілі страты.

**Артыкул 21. Грамадзянскі персанал органаў дзяржаўнай аховы**

На грамадзянскі персанал органаў дзяржаўнай аховы распаўсюджваецца дзеянне заканадаўства аб працы, аб службе ў дзяржаўным апараце (на адпаведныя катэгорыі грамадзянскага персаналу) і нарматыўных актаў, якія ўстанаўліваюць асаблівасці службы і работы ў органах дзяржаўнай аховы.

Асобы з ліку грамадзянскага персаналу органаў дзяржаўнай аховы ў выпадку прыцягнення іх да мерапрыемстваў па забеспячэнню дзяржаўнай аховы, якія выконваюць абавязкі, што ўскладаюцца на супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай аховы, карыстаюцца правамі і на іх распаўсюджваюцца гарантыі прававой абароны, прадастаўленыя супрацоўнікам органаў дзяржаўнай аховы.

**ГЛАВА 5. Прымяненне фізічнай сілы, спецыяльных сродкаў і зброі супрацоўнікамі органаў дзяржаўнай аховы**

**Артыкул 22. Умовы прымянення фізічнай сілы, спецыяльных сродкаў і зброі**

Супрацоўнікі органаў дзяржаўнай аховы прымяняюць фізічную сілу, спецыяльныя сродкі і зброю, калі іншымі спосабамі выкананне ўскладзеных на іх абавязкаў не ўяўляецца магчымым.

Фізічная сіла, спецыяльныя сродкі і зброя прымяняюцца зыходзячы з абстаноўкі, якая складваецца, паводле меркавання супрацоўніка органа дзяржаўнай аховы ў выпадках, прадугледжаных гэтым Законам. Прымяненню фізічнай сілы, спецыяльных сродкаў і зброі павінны папярэднічаць папярэджанні аб намеры іх выкарыстаць, калі гэта магчыма.

Аб раненні або смерці асобы з прычыны прымянення фізічнай сілы, спецыяльных сродкаў або зброі супрацоўнік органа дзяржаўнай аховы абавязаны паведаміць непасрэднаму начальніку для паведамлення пракурору.

**Артыкул 23. Прымяненне фізічнай сілы**

У выпадках і парадку, прадугледжаных Законам Рэспублікі Беларусь «Аб міліцыі» і іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь, супрацоўнікі органаў дзяржаўнай аховы маюць права прымяняць фізічную сілу, у тым ліку баявыя прыёмы рукапашнага бою, падручныя сродкі для спынення злачынстваў і іншых правапарушэнняў, затрымання асоб, якія іх учынілі, пераадолення процідзеяння законным патрабаванням супрацоўнікаў, калі ненасільныя спосабы не забяспечваюць выкананне ўскладзеных на іх службовых абавязкаў.

**Артыкул 24. Прымяненне спецыяльных сродкаў**

Супрацоўнікі органаў дзяржаўнай аховы маюць права прымяняць спецыяльныя сродкі, якія знаходзяцца на ўзбраенні органаў дзяржаўнай аховы, у выпадку:

1) адбіцця нападу ці пагрозы нападу на ахоўваемых асоб;

2) адбіцця нападу ці пагрозы нападу на супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай аховы, іншых грамадзян або спынення аказваемага супрацоўнікам супраціўлення;

3) адбіцця нападу ці пагрозы нападу на ахоўваемыя аб'екты, а таксама вызвалення іх пры захопе;

4) затрымання правапарушальнікаў і асоб, у адносінах да якіх ёсць дастатковыя падставы меркаваць, што яны маюць намер прымяніць зброю або перашкаджаць выкананню супрацоўнікамі органаў дзяржаўнай аховы ўскладзеных на іх службовых абавязкаў, і даставлення іх у органы ўнутраных спраў або органы дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь;

5) спынення масавых беспарадкаў і групавых дзеянняў, якія парушаюць дзейнасць ахоўваемых асоб;

6) неабходнасці спынення транспартнага сродку, які стварае пагрозу бяспецы ахоўваемых асоб або аб'ектаў.

Від спецыяльнага сродку і інтэнсіўнасць яго прымянення вызначаюцца супрацоўнікам органа дзяржаўнай аховы самастойна зыходзячы з абстаноўкі, якая складваецца, характару замаху і асобы правапарушальніка.

Забараняецца прымяненне спецыяльных сродкаў у адносінах да жанчын з бачнымі прыметамі цяжарнасці, а таксама асоб з яўнымі прыметамі інваліднасці і малалетніх, за выключэннем выпадкаў аказання імі ўзброенага супраціўлення, учынення групавога ці іншага нападу, што пагражае жыццю або здароўю людзей.

Пералік спецыяльных сродкаў, якія знаходзяцца на ўзбраенні органаў дзяржаўнай аховы, устанаўліваецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь або па яго даручэнню — Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 25. Прымяненне і выкарыстанне зброі**

Супрацоўнікі органаў дзяржаўнай аховы ў якасці крайняй меры маюць права прымяняць зброю ў выпадку:

1) абароны ахоўваемых асоб ад нападу ці пагрозы нападу, небяспечнага для іх жыцця або здароўя;

2) адбіцця нападу ці пагрозы нападу на супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай аховы і іншых органаў, прыцягнутых для забеспячэння ахоўных мерапрыемстваў, калі іх жыццё або здароўе падвяргаюцца небяспецы, а таксама спынення спроб завалодання іх зброяй, транспартнымі сродкамі або сродкамі сувязі;

3) адбіцця нападу ці пагрозы нападу на ахоўваемыя аб'екты, а таксама вызвалення іх пры захопе;

4) вызвалення заложнікаў, спынення тэрарыстычных актаў і іншых злачынных замахаў;

5) затрымання асобы, якая аказвае ўзброенае супраціўленне або адмаўляецца выканаць законнае патрабаванне аб здачы зброі, калі іншымі спосабамі і сродкамі пераадолець супраціўленне, затрымаць асобу або адабраць зброю немагчыма;

6) абароны грамадзян ад нападу, што пагражае іх жыццю або здароўю, калі іншымі спосабамі і сродкамі абараніць іх немагчыма.

Супрацоўнікі органаў дзяржаўнай аховы, акрамя таго, маюць права выкарыстаць зброю ў выпадку:

1) неабходнасці спынення транспартнага сродку шляхам яго пашкоджання, калі вадзіцель стварае рэальную пагрозу бяспецы ахоўваемых асоб ці ўзнікае небяспека для жыцця або здароўя людзей;

2) абароны людзей ад пагрозы нападу небяспечных жывёл;

3) папярэджання аб намеры прымяніць зброю, неабходнасці падачы сігналу трывогі або выкліку дапамогі.

Забараняецца прымяненне зброі ў адносінах да жанчын, а таксама асоб з яўнымі прыметамі інваліднасці і непаўналетніх, калі іх узрост відавочны або вядомы супрацоўніку, за выключэннем выпадкаў аказання імі ўзброенага супраціўлення, учынення ўзброенага ці групавога нападу, што пагражае жыццю або здароўю людзей.

Пералік зброі, якая знаходзіцца на ўзбраенні органаў дзяржаўнай аховы, устанаўліваецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь або па яго даручэнню — Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**ГЛАВА 6. Фінансаванне, матэрыяльна-тэхнічнае і іншае забеспячэнне органаў дзяржаўнай аховы**

**Артыкул 26. Фінансаванне органаў дзяржаўнай аховы**

Фінансаванне органаў дзяржаўнай аховы ажыццяўляецца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

**Артыкул 27. Матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне органаў дзяржаўнай аховы**

Матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне органаў дзяржаўнай аховы ажыццяўляецца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту на іх утрыманне.

Зямельныя ўчасткі, будынкі, пабудовы і збудаванні, абсталяванне і іншая маёмасць, якія знаходзяцца ў аператыўным кіраванні (карыстанні) органаў дзяржаўнай аховы, а таксама маёмасць, створаная (ствараемая) або набытая (набываемая) органамі дзяржаўнай аховы за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту і іншых сродкаў, з'яўляюцца ўласнасцю Рэспублікі Беларусь.

Органы дзяржаўнай аховы могуць мець жыллёвы фонд, што фарміруецца ў парадку, які ўстанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, у тым ліку жылыя памяшканні ў ваенных гарадках, службовыя жылыя памяшканні і інтэрнаты.

Сродкі, атрыманыя ў выніку ажыццяўлення службова-гаспадарчай дзейнасці органаў дзяржаўнай аховы, выкарыстоўваюцца для ўдасканальвання матэрыяльнай базы, паляпшэння жыллёвых умоў, аказання матэрыяльнай дапамогі, выплат стымулюючага характару і задавальнення іншых сацыяльных патрэб супрацоўнікаў і грамадзянскага персаналу дадзеных органаў.

**Артыкул 28. Сродкі ўзбраення і аснашчэння органаў дзяржаўнай аховы**

Органы дзяржаўнай аховы набываюць і выкарыстоўваюць сродкі ўзбраення і аснашчэння, уключаючы спецыяльныя тэхнічныя і іншыя сродкі, прынятыя на ўзбраенне органаў дзяржаўнай аховы, а таксама іншая неабходная для іх дзейнасці зброя і боепрыпасы да яе.

Продаж, перадача, вываз за межы тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і ўвоз на яе тэрыторыю сродкаў узбраення і аснашчэння, уключаючы спецыяльныя тэхнічныя і іншыя сродкі, зброю і боепрыпасы да яе, прызначаныя для выкарыстання ў дзейнасці органаў дзяржаўнай аховы, ажыццяўляюцца ў парадку, які ўстанаўліваецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Органы дзяржаўнай аховы распрацоўваюць, ствараюць і эксплуатуюць інфармацыйныя сістэмы ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**ГЛАВА 7. Кантроль і нагляд за дзейнасцю органаў дзяржаўнай аховы**

**Артыкул 29. Кантроль за дзейнасцю органаў дзяржаўнай аховы**

Кантроль за дзейнасцю органаў дзяржаўнай аховы ажыццяўляецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і спецыяльна ўпаўнаважанымі ім службовымі асобамі ў межах іх кампетэнцыі.

Органы дзяржаўнай аховы рэгулярна ў парадку, які вызначаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, інфармуюць яго і службовых асоб, спецыяльна ўпаўнаважаных Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, па асноўных пытаннях сваёй дзейнасці, а таксама па іх патрабаванню прадстаўляюць іншыя неабходныя звесткі.

**Артыкул 30. Пракурорскі нагляд**

Нагляд за дакладным і аднастайным выкананнем законаў, дэкрэтаў, указаў, іншых нарматыўных актаў Рэспублікі Беларусь органамі дзяржаўнай аховы ўскладаецца на Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь і падначаленых яму пракурораў.

**ГЛАВА 8. Заключныя палажэнні**

**Артыкул 31. Уступленне ў сілу гэтага Закона**

Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Артыкул 32. Прывядзенне нарматыўных актаў у адпаведнасць з гэтым Законам**

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь на працягу трох месяцаў:

прадставіць ва ўстаноўленым парадку прапановы па прывядзенню актаў заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Законам;

забяспечыць прыняцце ў межах сваёй кампетэнцыі нарматыўных актаў, неабходных для рэалізацыі гэтага Закона;

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

забяспечыць прывядзенне актаў міністэрстваў і іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання ў адпаведнасць з гэтым Законам.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**

11 чэрвеня 1998 г., г. Мінск.
№ 168-3



*ПЫТАЛЬНІК*

# ПЕНСІЙНЫЯ ЗАКОНЫ РОЎНЫЯ ДЛЯ ЎСІХ

**Адкажыце, калі ласка, колькі атрымлівае палкоўнік былой Савецкай Арміі, пенсію якому павінна выплачваць Беларусь? І яшчэ пытанне: чаму ў Рэспубліцы Беларусь самыя маленькія пенсіі прызначаюцца менавіта беларусам?**

**Міхаіл Іванавіч ФЕДАРЧЭНЯ, г. Мінск.**

Як паведамілі нам у Міністэрстве сацыяльнай абароны, у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні ваеннаслужачых і асоб кіруючага і радавога саставу органаў унутраных спраў», памер пенсіі залежыць ад адпаведных акладаў па штатнай або апошняй з займаемых пасад, акладаў па воінскаму або спецыялізаванаму званню, працэнтнай надбаўкі за выслугу гадоў, грашовай кампенсацыі харчовага пайка. Апроч таго, некаторым катэгорыям пенсіянераў (Героям Савецкага Саюза, удзельнікам і інвалідам вайны, вязням фашысцкіх канцлагераў і іншым) прадугледжваецца пэўная надбаўка. Такім чынам, памер пенсіі ваеннаслужачым, якія звольніліся нават у адным званні, можа вагацца ў значных памерах. Калі ж вас, Міхаіл Іванавіч, цікавіць велічыня пенсіі канкрэтнага чалавека, аб гэтым можна даведацца ў ваенным камісарыяце па месцы пенсіяніравання.

Цяпер наконт другога пытання. Заканадаўства Беларусі не ўтрымлівае асаблівасцяў вылічэння памераў пенсій у залежнасці ад нацыянальнасці. Памеры пенсій па ўзросту залежаць толькі ад працяглацсі працоўнага стажу і велічыні заробку да выхаду на пенсію.

**Сяргей ГРЫБ.**

